Год II. — № 20. Пятніца, 20-га траўня (мая) 1921 г. Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.



## Грамадзяне!

Мы разьлічалі на грошы з Амэрыкі, але яны яшчэ ня прыйшлі і невядома калі прыдуць. Матар'яльнае становішча „Нашае Думкі" цяпер надта цяжкое: плата аўторам самая мізэрная, ледзь хапае грошы на друк і на паперу. Мы ўжо ня можам адбіваць болей нумароў, каб пашыраць газэту сярод несьвядомых. Надалей прыдзецца або выпускаць газэту без укладнога лісту, або зусім на нейкі час зачыніцца. Калі ня хочаце, каб гэтак здарылася,—памажэце падпіскай ці складаньнем падмог.

„Наша Думка".

## „Наша Думка"

павінна з засмучэньнем паведаміць некаторых сваіх падпісчыкаў-вучыцялёў, яшчэ да гэтага часу ня прыслаўшых навет грошы на перасылку, што газэта ня будзе ім высылацца з 1-га чэрвеня і да той пары, пакуль ня будзе належнае заплочана.

**„Наша Думка"** паведамляе паважаных падпісчыкаў, заплаціўшых да 1-га чэрвеня або дастаўшых газэту дарма, што з 1-га чэрвеня ні наперад ні дарма газэта высылацца ня будзе. Просім прыслаць грошы да паказаннага часу.



Пачатковыя школы, бібліатэкі, чытальні, могуць палучаць „Нашу Думку" **ДАРМА**, выслаўшы толькі грошы на перасылку газэты, (24 маркі ў 3 месяцы).

Усіх паважаных грамадзян войтаў і солтысаў, якім пасылаецца „Наша Думка", просім прысылаць нам адрасы сялян, якія таксама хочуць палучаць газэту.

## Польшча і Горная Сьлезія.

Ня можа быць і гутаркі, што гадоў семсот таму назад Горная Сьлезія была польскай старонкай, але у сучасны мамэнт — яна моцна анямечана, так што навет пры найлепшых для палякоў і найгоршых для немцаў варунках адбыўшыйся нядаўна, плебісцыт выпаў на карысьць немцаў. Мы вельмі шкадуем, што так сталася, што зямля спакон вякоў заселяная славянскім народам, анямечана і, значыць, eo ipso павялічылася сіла нямецкая і паменшылася сіла славянская.

Горная Сьлезія ня першая славянская старонка, стаўшая афярай германізацыі. Люцічы, Бодрычы, Паморскія, Палабскія і іншыя славянскія пляменьні даўно ужо перасталі існаваць, перарабіўшыся на немцаў.

Як ня прыкра нам прызнаваць такое сумнае для славянства зьявішча, але гэта ёсьць так. Немцы здолелі заваяваць чыста - славянскія землі, перарабіўшы іх на нямецкія то сілаю свайго аружжа, то сілаю сваёй культуры.

Польшча праграла плебісцыт, нядаўна адбыўшыйся у Горнай Сьлезіі,—праграла, можна сказаць, у сябе дома. Нездаволеная рэзультатамі плебісцыту, палякі сарганізавалі ў Горнай Сьлезіі паўстаньне, жадаючы адабраць ад немцаў захопленую імі калісь-та польскую правінцыю.

Для нас, беларусаў, асабліва зразумела гэтая адчайная барацьба польскага народу проціў германізацыі, заваяваўшай яшчэ адну польска-славянскую „пляцоўку", і мы усёй душою былі-б на старане польскага народу у яго змаганый за сьвятыя свае правы, але...

Бяда у тым, што баронячы свае правы у Горнай Сьлезіі, польскі народ ня хоча прызнаваць чужых правоў на тэрыторыях, гдзе ён чыста „нямецкім" способам, а можа і горай, як нямецкім, дабіўся панаваньня, паняволіў запраўдных гаспадароў тых зямель: беларусаў, літоўцаў і украінцаў.

На гэтых беларускіх, літоўскіх і украінскіх землях, знайходячыхся цяпер у валаданьні Польшчы, ня было навет ніякага плебісцыту. Проста—далучылі і канец на тым. Чаму-ж гэта так робіцца, гдзе-ж тут справядлівасьць. Чым мы горай сьлезцаў, чаму нас не спытаюцца, чаго і куды мы хочам? Як бы аднесьліся да нас польскія афіцыяльныя сфэры, каб, па прыкладу Сьлезіі, у нас паднялося паўстаньне проціў часова перамогшых нас польскіх элемэнтаў? Нам здаецца, што не пагладзілі-б па галоўцы, наадварот—здушылі-б...

Страшэнна заплутанае пытаньне як лепей, як справядлівей разрашыць тэрыторыяльныя споркі паміж народамі. Здавалася-б, што плебісцыт павінен быў-бы быць апошнім словам у такіх прыпадках. Але так толькі здаецца. Без прыняцьця пад увагу гісторыі, этнаграфіі і навет гэографіі, ня можна на аснове аднаго толькі плебісцыту справядліва вырашыць справу прыналежнасьці данай сторонкі да той ці іншай дзяржавы. Плебісцыт, гісторыя, этнаграфія, гэографія—вось тыя фактары, якія павінны прыймацца пад увагу пры вырашэньні долі спорных тэрыторый.

А калі так, то і доля Гор. Сьлезіі, як і доля нашага краю,—аднолькова павінны быць узважаны на аснове вышэй азначаных фактараў.

Але у пытаньні аб прыналежнасьці Горнай Сьлезіі, як гэта амаль ні заўсёды бывае, пачынае адыгрываць вялікую ролю фармальная старана і розныя палітыка-аканамічныя фактары.

Ліга Нацый урадзіла у Сьлезіі плебісцыт, які выпаў на карысьць немцаў. Значыцца, з фармальнага боку ня можа быць і гутаркі аб тым, каб не аддаць Сьлезіі немцам. Раз немцы выгралі, яны і гаспадары Сьлезіі. Так выходзіць згодна з літэрай Вэрсальскага трактату, пад каторым падпісалася і Польшча.

Яшчэ адно схіляе большасьць сяброў Лігі Нацый да аддачы Сьлезіі немцам—гэта тое, што немцы ня хочуць выплачваць Лізе Нацый кантрыбуцыі, кажучы, што бяз Сьлез

ча абярнуць „унутранай справай Польшчы“....

І палякі, і маскоўцы ня кідаюць сваей работы ў гэтым кірунку і тут, у Вільні, паміж беларусамі. Адны стараюцца знайсьці пакорнага служку ў асобе палітычнага банкрута, Аляксюка. Другія умаўляюць беларускаму грамадзянству. быццам Расея — гэта нешта для нас „сьвятое“, самацэннае і навет шчыра крыўдзяцца за тое, што беларусы маскоўцаў так і называюць «маскоўцамі»...

Скажам яшчэ раз: важна ня тое, *што* гаворацць маскоўскія служкі і польскія захватчыкі, а *чаму* яны гэтак гавораць. Важна тое, што і адны і другія ўжо зразумелі, якую моц мае ў сабе беларускі нацыянальны рух, ацанілі яго вагу і ўсім сіламі стараюцца ўвясьці яго ў рамкі сваей дзяржаўнасьці. І затым-то яны дэклямуюць аб маскоўскіх і польскіх „дабрадзействах“ нашаму народу і суляць „спакойную будучыну Беларусі“ пад іх скрыдлам.

Ім мы адкажам на ўсе гэтыя «заляцанкі» з усходу і заходу так:

*Толькі свая дзяржаўнасьць дасьць нашай Бацькаўшчыне праўдзівую волю і шчасьце.* Бо мы навучаны самым жыцьцём, што толькі *праз незалежнасьць* вядзе дарога да супольнага жыцьця з тымі з нашых суседзяў, з якімі нас злучаюць супольныя інтарэсы — чы то будзе конфэдэрацыя, чы фэдэрацыя, чы дзяржаўны саюз. Без незалежнасьці гэткае супольнае жыцьцё абернецца ў паняволеньне нашае Бацькаўшчыны дужэйшымі суседзямі. Без незалежнасьці мы заўсёды будзем лічыцца нечыяй рэчай якую будуць дзяліць і таргаваць ёю чужыя людзі — так, як гэта, робіцца цяпер.

**Ів. Мялешка.**

## Ня можна маўчаць!

Нам ужо ведама, што польскі ўрад аддае беларускую зямлю польскім жаўнерам. Дзеля гэтай мэты ён забірае пад сваю ўласнасьць у заходняй Беларусі казённыя, маёрацкія, духоўныя і фундушовыя землі. Апрача таго, ён мае права забраць дзеля гэтай-жа мэты ўсе прыватныя маёнткі, пакідаючы гаспадарам іх 400 гэктараў.

Мы ня досіць зварачываем увагі на гэту справу. А трэба ведаць, што забор нашых земляў гразіць самаму жыцьцю беларускага народа. Усім нам вядома, якую вагу для беларускай будучыны маець зямя як яе жадаюць беларусы беззямельныя і малазямельныя. А многія ішчэ з уцекачоў не паварочываліся дамоў.

Я памятаю, які гвалт зрабілі палякі, калі за некулькі гадоў перад сусьветнай вайной немцы, хочучы анямечыць польскую Пазнань, сталі па дарагой цане праз «Bank-Osten» скупляць там польскія двары. Я памятую, якія праклёны сыпаліся тады на галаву немцаў.

А што гаварылі і пісалі палякі, калі Урад Мікалая II у Віленскай, Ковенскай і Горадзенскай губэрнях пры помачы «Крэстянскага Банка» скупляў двары, каб пасадзіць на іх рускіх пасяленцаў? Графа Корвін-Мілеўскага, прадаўшага гэтаму банку свой двор Бярэзіну ў Ашмянскім павеце, польскія паны называлі ня інакш, як зраднікам.

Але вучні шмат далей сяганулі ад сваіх вучыцялёў. Я ня абвінавачываю наагул польскі народ, я ведаю, што ён ніколі ня дасьць сваей згоды на гэткае дзела. Я кажу толькі аб сучасных кіраўнічых унутранай палітыкі Польшчы, што ім надта прыпала да смаку тая дзікая мараль, што як ад мяне адбіраюць жонку, то гэта зло, а калі я адбіраю ад другога, то гэта дабро.

Ня трэба быць пракарам, каб спазнаць, што гэта «зямельная рэформа» ў Беларусі, прывядзе толькі да лішніх забурэньняў і афяраў, бо беларус, як бы ён ня быў ціхі і пакорны, ніколі не памірыцца з тым, каб на той зямлі, каторая паліта потам і кроўю яго дзядоў і прадзядоў, жыў нейкі чужынец.

Дык нам ня можна маўчаць. Хай увесь сьвет знае аб тым, што польскія паны рыхтуюцца зрабіць з няшчасным беларускім народам. Трэба, каб беларускія арганізацыі, якія цяпер ёсьць у краі, зьвярнуліся да ўсіх народаў з гарачым пратэстам проціў гэтага насільства.

**Сапрон Кавэрда.**

## ДЗЬВЕ МЕРКІ.

Міравая ўмова паміж Польшчай і Савецкай Расеяй, каторая аддала Польшчы Заходнюю Беларусь, у аканчальнай форме падпісана ў Рызе 18 марца 1921 году.

Значыць, толькі ад 18 марца с. г. заходня-беларускія паветы прызнаны прыналежачымі да Польскага гаспадарства. Значыць толькі з гэтага-ж чысла набіраюць для гэтых паветаў законную сілу пастановы варшаўскага сойму, датыкаючыя іх. Значыць, урэшце, што толькі *з гэтага-ж 18 марца* мае сілу і польскі закон аб экспропрыяцыі пад ваенную каланізацыю тых зямель, гаспадары каторых ня вернуцца на сваю гаспадарку *да 1 красавіка 1921 году.*

Такім парадкам выходзіць, што *дзеля паваротy адсутных гаспадароў на іх зямлю быў дадзен тэрмін 13 дзён:* ад 18 марца да 1 красавіка.

Праўда: для польскіх паноў, якія былі паўцякалі ў Польшчу, гэта ня страх, бо з Польшчы яны мелі поўную магчымасьць вярнуцца ў свае двары і раней. Затое страх тым беларускім гаспадаром-сялянам, якіх стары маскоўскі ўрад гвалтам выганяў з Віленшчыны, Горадзеншчыны і паўднёва-заходняе Меншчыны у глыб Расеі: вядома ўсім, што з Расеі вярнуцца нялёгка, а для згалеўшых уцекачоў дагэтуль было блізка зусім немагчыма варочацца да сваіх спаленых хат і зруйнаваных гаспадарак. Вядома такжа, што гэткіх невярнуўшыхся дагэтуль у Бацькаўшчыну ўцекачоў-беларусаў бадзяецца па Расеі каля мільёна душ. І вось ім-то і дадзен трынаццацідзённы тэрмін павароту на сваю зямлю, а як у такі кароткі час вярнуцца яны ніякім чынам ня здолелі, дык уся іх зямля і забіраецца пад ваенную каланізацыю..

Супроць гэтага востра выступілі ўсе беларускія часопісі (ведама, апрача выдаваных чужынцамі). Але *не знайшлася ніводная польская газэта, якая-бы хоць сумленна асьвятліла гэту цяжкую крыўду, ўчыненую беларусам.* Прамаўчалі і таквзаныя польскія „соцыялісты“: якое ім дзела, што крыўдзяць беларускіх сялян? Абы толькі польскіх паноў закон не чапіў, абы не пацярпеў польскі «stan pasiadania» на «усходніх акраінах»... Міжнародная салідарнасьць, супольнасьць інтарэсаў працоўнага народу ўсіх краёў, аб якой пекна гавораць польскія «соцыялісты», маюць вагу для іх толькі тады, калі карысны для «польскасьці»!

Затое як згодна нападаюць польскія газэты на ковенскую Літву за тое, што паводле літоўскага зямельнага закону з *15 кастрычніка 1921 г.* конфіскуецца на карысьць мала- і беззямельных сялян двары тых паноў, каторыя да *лістапада таго-ж году* ня вернуцца да сваіх двароў. Такім чымам, літоўскі сойм даў польскім паном, *не хацеўшым ехаць у Літву*, каторую яны байкатуюць, *шаснаццаць дзён часу на паварот.* *) І як ахвоча, з якім смакам крычаць польскія „соцыялісты“ аб падобных «літоўскіх гвалтах» над польскім народам»!

Калі прымем пад увагу, што ня могуць варочацца ў Літву толькі тыя паны, якія *уцяклі* з яе пасьля няўдачы ладжанага імі паўстаньня проці літоўскай незалежнасьці, а таксама тое, што беларускія ўцекачы былі *выгнаны* з сваіх вёсак штыкамі і нагайкамі, дык зразумеем, дзе і каму чыніцца запраўдная крыўда.

**Ів. Мялешка.**

*) Данныя гэтыя узяты намі з „Gaz. Wil.“ № 105.

## Бальшавікі і Віленшчына.

Раней мы адзначвалі, што пасьля Рыжскага трактату 18 сакавіка 1921 г. палажэньне Віленшчыны, зусім зьмянілася, дзякуючы таму, што бальшавікі адмовіліся ўмешвацца у польска-літоўскія спрэчкі аб прыналежнасьці абшараў Віленшчыны для тэй, ці іншай дзяржавы. Так здавалася ня толькі нам, а і паляком і ліцьвіном; здавалася, што справа Віленшчыны, г. ё. тэй тэрыторыі, якая занята цяпер польскімі войскамі, ня гледзючы на літоўска-бальшавіцкі мір 12 ліпня 1920 году, перастала цікавіць бальшавікоў.

Аказваецца, наадварот.

Нота Чычэрына ад 28. IV. 21 г., скірованая да новага пасла рэспублікі Саветаў у Коўні Аралава, паміж іншым гаворыць:

„*Да літоўскай рэспублікі належыць ўлада над Віленшчынай*, наданая ёй праз Расейскую рэспубліку, аж да тэй пары, *пакуль літоўская рэспубліка не аддасьць сваей сувэрэнай ўлады польскай рэспубліцы.*

«Рыжскі трактат прадвідзіць адно толькі, што спор аб Вільні мае быць расстрыгнуты толькі паміж Польшчай і Літвой. Пункт той у жаданым разе не супярэчыць пастановам літоўска-расейскага трактату, каторы *астаецца у сіле пасьля падпісаньня міру ў Рызе*».

Вось як, аказваецца, глядзіць Масква на пытаньне аб Віленшчыне. Яна лічыць, што тэрыторыя, аддадзеная Савецкай Расеяй Ліцьве, належыць да Літоўскай рэспублікі да тэй пары, пакуль Літва сама не зрачэцца аддадзенай ёй тэрыторыі.

Мы ужо раз выказалі свой пагляд па пытаньню аб дагаворах з бальшавікамі.

Мы казалі, што гэтыя дагаворы можна або не прызнаваць, або прызнаваць,— хоць бы часова, і тады -лічыцца з імі, як з праўным юрыдычным актам, меючым сілу хоць бы да тэй пары, пакуль у руля Расеі стаяць Саветы. Дапраўды, што іншае можна прыдумаць для разрашэньня праблемы аб прыналежнасьці Віленшчыны спосабам юрыдычным, як ня тое, што Вілен-

што падцьвярджаюць і ўсе безстаронныя дасьледчыкі. Па статыстыцы-ж яно выходзіць якраз наадварот: тут праваслаўныя беларусы пазапісаваны то проста палякамі, то «тутэйшымі», то ўрэшці — маскалямі. Вось-жа гэнае незразумелае зьявішча саўсім лёгка вытлумачыць, калі згадаць, што „статыстыкам“ хадзіла аб тое, каб «выпраставаць граніцу».

З разгляду данных можна зрабіць такі вывад, што для паасобных паветаў былі пры гэтым асобныя палітычные інструкцыі. Асабліва зграбна сфальшаваны Ашмянскі павет. Павет гэты, як ведама, належыць да найбольш сьвядомых з нацыянальнага боку. Ніякіх палякоў, апроч некалькіх вялікіх паноў, там няма. Але дзеля ўсё тэй самай тэорыі, што каталікі-беларусы павінны быць палякамі, павет гэты заўсёды польскія аўтары лічаць польскім. Робяць гэтую памылку навет досыць паважныя спаміж іх людзі. Ведама, што гэтыя «статыстыкі» не маглі дапусьціць, каб у такім «польскім» павеце, ды апынуліся беларусы. Яны, проста кажучы, *зрабілі* статыстыку. Перад усім далучылі каталікоў—запісалі іх усіх палякамі. З 23-х валасьцёў у 19 валасьцёх павету большасьць каталіцкая і ўсе гэтые воласьці паказаны як польскія. Але на ўсходзе павету у 4-х валасьцёх праваслаўная большасьць. Як тут зрабіць? Пісаць палякамі нязручна, занадта відочны фальш. Пісаць беларусамі небяспечна. Гэта можа паставіць польскасьць усяго павету пад запытаньне. Пастанавілі запісаць беларусаў-праваслаўных «тутэйшымі». «Тутэйшы» значыць несьвядомы чалавек, хто яго ведае:—можа і паляк, можа і не. І вось у той час, як у глухіх палескіх нэтрах уся люднасьць аказалась сьвядомаю сваёй нацыянальнасці і назвала сябе беларусамі, тут, дзе найбольш граматных, адкуль шмат людзей было ў беларускіх прасьветных, бежанскіх і іншых арганізацыях, ды і цяпер за часоў польскага панаваньня істнуюць сотні беларускіх школ, разыходзіцца найбольш беларускіх кніжак і газэт, вось тут аказалася найбольш несьвядомая часьціна Беларусі! А праф. Ромэр, які ня мог гэтага не заўважыць, каб схаваць канцы у ваду, прыдумаў навет «навуковае» тлумачэньне гэтаму звычайнаму фальшэрству. Бачыце, кажа ён, тут спатыкаецца ўсходняя культура з заходняй і жыхар Ашмяншчыны сам ня ведае, ў які бок яму паткнуцца, дык і называе сябе тутэйшым— значыць устрымліваецца ад абазначэньня нацыянальнасьці. Усё гэта можа і праўдападобна на паперы, але ў жыцьці бывае якраз наадварот. У мясцох, дзе спатыкаюцца дзьве нацыянальныя, ці рэлігійныя групы, адбываецца барацьба, якая ўцягівае ў сябе навет няпоўналетных (хіба ня вучаць нашые дзеці па ўсей Заходняй Беларусі: Kto ty jesteś? — polak mały).

Тым часам, як у Ашмянскім і цэлым радзе іншых паветаў перапішчыкі відаць мелі агульную павятовую інструкцыю, у некаторых паветах валаснoe начальства рабіла перапіс на сваю руку. Бо як іначай растлумачыць такія штукі: у валасьцёх Іжскай, альбо Хаценчыцкай, Вялейскага павету трэба са сьвечкай шукаць маскаля — і ніводнага ня знойдзеш. Хіба які духоўны, прыехаўшы з Расеі ў даўныя часы, прызнае сябе маскалём. Таксама няма маскалёў і ў суседніх валасьцёх. І тым часам, як па ўсім павеце праваслаўныя беларусы запісаны беларусамі, у Іжскай валасьці польская статыстыка паказала 81,6 проц. маскалёў, а ў Хаценчынскай 60,8 проц. На жаль, ня маем мы сьпісу тых асоб, якіе кіравалі перапісам у гэных валасьцёх, але пэўна не памылімся калі скажам, што гэта былі эн-дэкі

А вось Дзісьненскі павет, дык відаць увесь трапіў у эндэцкіе рукі. Гэты павет, які таксама вызначаецца нацыянальнай сьвядомасьцю і чыста беларускім насяленьнем, польская статыстыка робіць... расейска-польскім. Люднасьць каталіцкая, пераважаючая у 9 валасьцёх, уся блізка запісана на палякоў, з праваслаўных-жа *беларусаў каля 70 проц. запісалі маскалямі.* І такім чынам выйшла, што ў валасьцёх Богіньскай, Чарэскай, Яменскай, Мікалаеўскай, Пастаўскай, Перабродзкай, Стафанпольскай і Залескай пераважаюць маскалі. Тым часам, як праўдзівых маскалёў (старавераў) у павеці вельмі мала і толькі ў аднэй воласьці (Перабродзкай) яны дасягаюць аднэй трэці люднасьці, большасьці-ж, ведама, нідзе ня маюць. Саўсім ясна, што і ў гэтым павеце статыстыкаю кіравалі людзі, якім хацелася абавязкова зацёрці беларускі характар краю, ідучы пры гэтым на такі, навет з тактоўнага боку незразумелы крок, як запісываньне беларусаў маскалямі. А быць можа, гэта ўжо тады эндэцыя гатавала сабе аргумэнты, каб іменна ў Дзісьненскім павеце зрабіць безпасрэдную граніцу Польшчы з Расеяю? Магчыма і гэта.

Усе пададзеные тут факты, здавалася-б, саўсім ясна паказуюць вартасьць сьпісу люднасьці Беларусі, аб якім мова, а часткаю — і наогул польскай статыстыкі. Уфарбаваная статыстыка, узалежненая ад палітычных пагляда ў Ураду і кіруючых груп грамадзянства, яна ня мае ніякага права называцца навуковаю статыстыкаю, а вывады яе маюць толькі суб‘ектыўную вартасьць; яны паказуюць тое, што *хацелі* бачыць асобы, кіраваўшыя перапісам, а ня тое, што ёсьць. У пашырэньні гэтай характарыстыкі на ўсю польскую статыстыку нас падтрымліваюць адносіны праф. Ромэра, віднейшага прадстаўніка польскай навукі, да данных перапісу, аб якім мова. У сваёй прадмове праф. Ромэр называе перапіс «адным з найлепшых твораў», гаворыць аб «вялікасьці і значнасьці справы, якую зрабіла польская адміністрацыя, і адным словам не знаходзіць слоў, каб належна пахваліць гэты, як мы бачылі, статыстычны фальсіфікат. Але відаць ня досыць веручы сваім уласным словам, запрасіў ён яшчэ амэрыканскага вучонага Дуранда, каб той сваім аўтарытэтам падмацаваў... праўдзівасьць данных.

Ці дзеля незнаёмасьці з мэтодамі гэтай статыстыкі, ці можа дзеля якіх прычын тактычных (п. Дуранд—сябра амэрыканскай-тэхнічнай місыі ў Польшчы), выдаў п. Дуранд ліст, у якім ён, праўда досыць нясьмела, кажа, што „ёсьць шмат фактаў, якіе прыхіляюць яго да мяркаваньня, што гэтыя данныя адпавядаюць праўдзе“. З далейшага цягу ліста відаць аднак, што шаноўны амэрыканец ня мае паняцьця аб нашых варунках. У яго напр. довадамі правільнасьці лічацца такіе факты — што лік перапісчыкаў быў вялікі, што гэта усё былі асобы цывільныя і г. д. Ен таго ня ведае, што гэтыя цывільныя асобы вымуштраваны лепей за усялякае войска і што якраз ад войска мы маглі-б спадзявацца больш справядлівага асьвятленьня фактаў, бо яно не знаходзіцца пад уплывамі «Стражы Крэсовай» і усялікіх рэакцыйных арганізацый. Але, ведама, ад амэрыканца трудна вымагаць, каб ён знаў ўсе гэтые «тонкасьці». Што іншае—праф. Ромэр. Ен што робіць,—робіць сьвядома.

Пазайздросьціўшы апініі расейскай казённай статыстыкі, палякі як бачым, пераняли ўсе яе спосабы, ды зрабілі яшчэ мо‘ і крок наперад у справе штукаваньня статыстычных данных. Вельмі аднак добра, што яны гэта робяць так неакуратна, што даюць сябе злавіць на самых відавочных фальшах. У будучыне, пры асьвятленьні больш невыразных з‘явішчаў і пытаньняў, кожны будзе мець права падыходзіць да данных іхнай статыстыкі і іхных вучоных вывадаў з належнай асьцярожнасьцю.

**А. Ж.**

(„Белар. Звон“)

шчына, аддадзеная бальшавікамі Ліцьве, ёсьць літоўскай зямлёй.

Зусім іншае пытаньне: на якім аснаваньні бальшавікі аддалі гэтую зямлю ня Польшчы, або Беларусі, а Ліцьве.

Такая ужо была іх воля. Аддалі Ліцьве, а не каму-небудзь другому. Такім заўсёды было так званае «сувэрэннае» права, г. ё. права гаспадара аддаць у арэнду, або навет падараваць частку або і ўсю сваю маемасьць каму ён хоча.

Нам скажуць: але-ж ёсьць і іншае разрашэньне пытаньня аб прыналежнасьці спорнай тэрыторыі да тэй ці іншай дзяржавы, — гэта права самаазначэньня, калі народ спосабам плебісцыту, ці якім іншым мірным спосабам, насупроць волі сувэрэна, выказваецца за прыналежнасьць сваю ні да таго, каму яго аддалі, а да іншага суб'екта.

Разумеецца, калі гэта выказываньне волі праходзіць пры нармальных варунках, то ня лічыцца з вынікамі галасаваньня ня можна.

Але калі адна частка насяленьня даннага краю належачая пры гэтым да аднэй толькі нацыянальнасьці, карыстаючыся захоплянай у свае рукі ўладай, хоча пад сваім выключным кіраваньнем зрабіць плебісцыт, або выбары у мясцовы сойм, то такі плебісцыт або выбары ёсьць адна камэдыя, ня маючая ніякай абсалютна вагі, бо плебісцыт або выбары ў такіх прыпадках будуць не свабоднымі і дадуць штучныя рэзультаты.

Ліга Народаў стараецца цяпер найці на Брусэльской конфэрэнцыі спосаб памірыць пратэнзіі Літвы і Польшчы на аддадзеныя бальшавікамі Ліцьве тэрыторыі.

Для Польшчы, якая па усім апошнім данным лічыла, што пасьля Рыжскай умовы 17 сакавіка 1921 г., бальшавікі адмовіліся ад усякага умешваньня ў літоўска-польскі спор, якую-б ён форму ні прыбраў, поўнай неспадзянкай будуць словы апошняй ноты Чычэрына:

«Ведамасьці, якобы наш урад забавязаўся на моцы тайнага укладу захаваць нейтральнасьць на выпадак нападзеньня Польшчы на Літву, зьяўляецца фантастычным вымыслам".

Значыцца, калі-б пасьля няудачы брусэльскай конфэрэнцыі Польшча пачала-б вайну з Літвой, то Савецкая Расея не аставалася-б нейтральнай і бараніла-б Літву.

Так трэба разумець Чычэрына, каторы ад імя былога сувэрэна Віленшчыны Савецкай Расеі адкінуў пагалоскі, быццам Расея зьвязана тайнай умовай ня умешвацца у польска-літоўскія спрэчкі, калі-б яны дайшлі да ваеннай развязкі.

**Вілянчук.**

## Маленькі фельэтон.

### Высмактаная цытрына.

Кожны чалавек, напэўна, чуў пра марскую хваробу, але ня кожному, асабліва далёкаму ад мора беларусу, давялося пазнаць гэту хваробу на практыцы. А пазнаёміўшыся з хваробаю, трэба знайсьці й лякарства ад яе.

Марская хвароба ня надта страшная, але даволі прыкрая. А ўвесь сэнс гэтае хваробы ў тым, што, едучы караблём па моры, чалавек пераносіць асаблівую нейкую нытнась і, пры моцным гойданьні карабля, часта ванітуе.

Найпрасьцейшае лякарства ад марское хваробы—цытрына. Калі толькі пачынае нудзьць карабельных пасажыраў, дык яны стараюцца хутчэй, разрэзаўшы цытрыну, смактаць яе.

Высмактаная цытрына спакойна выкідаецца за бок карабля ў марскія хвалі.

Польскі карабель пад нязвычайна доўгаю заморскаю назваю—«Cywilny zarząd Ziem Wschodnich» пад брэйд-вымпэлэм гэнэральнага камісара пана Асмалоўскага вырушыў ў 1919 г. ад родных берагоў на моры беларускага руху ў кірунку на ўсход.

Чым далей на ўсход пасоўваліся пасажыры «Zarządu Cywilnego», тым мацней адчувалі яны, што іх цягне на ваніты.

Трэ' было ім лякарства, ну хоць-бы проста нечага гэткага наншталт цытрыны, каб пасмактаць.

На лініі Менску марская хвароба зрабілася настолькі моцнай, што бяз цытрыны ўжо ніяк ня можна было ехаць далей.

Цытрына знайшлася.

Гэтае заморскае лякарства было спакована ў прыгожай скрыначцы, на якой красаваліся тры літары з аднаго боку— Б. В. К. і тры літары з другога боку— B. K. W.

Пабеларуску гэтыя літары значылі— «Беларуская Вайсковая Камісія», а папольску, ведама-ж,—«Bialoruska Komisja Wojskowa».

Лякарства паляком хоць і ня вельмі падабалася, але было, тым часам, патрэбна, каб ня так моцна ванітаваць і каб даехаць аж да лініі Бярэзіны...

Ў гарачыя летнія дні 1920 году павеяў з нязвычайнаю сілаю бальшавіцкі гураган і пагнаў «Cywilny Zarząd» назад да яго радных берагоў, на захад.

Паехала туды разам, хоць і мала ужо патрэбнае, беларускае «лякарства».

Слаўны карабель разьбіўся недзе аб свае «ойчыстэ» мялізны і нязграбныя снасьці яго недзе навекі адпачылі на дне польскіх архіваў.

Высмактаная цытрына даўно апынулася за бокам карабля, а беларуская скрыначка, разьбітая ў друбязгі, куляецца сабе на хвалях беларускага руху.

**Звончык.**

## Народныя песьні Сакольшчыны.

### Пташачка.

Раба пташачка, невялічанька,
Па дарожцы скача,
Дурна дзеўчына, неразумная,
Па кавалеру плача.
Эй, ня я плачу, эй ня я тужу,
Самы сьлёзкі льюцца,
Я да мілага лісточкі пішу
І нялюбыя шлю.
Прыляцеў варон з чужых старон,
На двор заглядае,
Тут мая панна-белалічанька
Па двару пахаджае.
Эй, валэ-ж мае дый паловыя
Чаму-ж не арэце?
Эй, леты-ж мае дый малодыя,
Чаго-ж сумуеце?

### Я ў альшыне...

Я ў альшыне валэ пасла (2 разы).
Аж мне цемна ночка зайшла (2 р.)
Пасла, пасла загубіла (2 р.)
Пайшла шукаць, заблудзіла, (2 р.)
Каб хто-жа мне валэ зналезе (2 р:)
Дала-б яму вянец зараз. (2 р.)
Ніхто іншы, як Ясенько, (2 р.)
Мой наймільшы, (2 р.)
Сеў на каля і вывінуў (2 р.)
І з альшынанькі валэ выгнаў (2 р.)
Вот я табе валэ зналез (2 р.)
Давай-жа мне вянец зараз (2 р.)
Ты, Ясеньку, ёсьць убогі (2 р.)
А вянечак мой ёсьць дрогі (2 р.).

* * *

А ў гародзе капустанька,
На ёй ліст зялёны,
Едзе, едзе мой міленькі
Пад ім конь вароны.
Едзе, едзе мой міленькі,
Пад ім конь танцуе,—
Маладая дзяўчынанька
Шнюроўку шнюруе,
Шнюруй, шнюруй шнюраваньну,
Адчыні варота,—
Я да цябе, мая міла.
Прыехаў сірота.
Адчыніла ты варота,
Адчыні і стайню,
Дзе я свайго варанога
Коніка пастаўлю.
Адчыніла ты мне сені,
Адчыні й камору,
Пусьці, пусьці мяне, міла,
Да сэ на размову.

* * *

Чаму ты, коню, вадэ ня п'еш,
Ці дарожку чуеш?
Чом ты, сынку Ясюленьку;
Ў дома на начуеш?
А як-жа мне, мая маці,
Ў дома начаваці,
Пасьцель бела—сьценка нема
Не з кім размаўляці.
Маеш, сынку Ясюленьку,
Каня варанога,
Як завядзеш да стаенкі,
Гавары да ёга.
Я да коня загавару,
А конь не гаворыць,
Як здумаю аб дзяўчыне
Душа-сэрцо боліць
Пакінь, сынку Ясюленьку,
Аб дзеўцы думаці,
Але думай, Ясюленьку,
Што я твая маці.
Не забуду, мая матка,
Аж пакуль дастану
Румянага яе лічка,
Харошага стану.

### А ў полі бяроза.

(*Рэкруцкая*).

А ў полі бяроза,
Яна жонка-высока,
Эй, на карэньне глубока,
На ей лісьце шырока
Эй, на ей кукаваньні кувалі
Салавейчыкі сьвісталі,
Эй, двох малойчыкаў спаймалі
Назад ручанькі зьвязалі,
Эй, назад ручанькі зьвязалі
Па фурманачкі паслалі.
Эй, самы селі ў пярадочку,
А рэкруцікі ў задочку.
Эй, самы селі, паехалі,
А рэкруцікі заплакалі,
Эй, вязуць мяне да Саколкі,
А я думаў, што да жонкі.
Эй, вязуць мяне крыва-проста,
Прашчай, прашчай, міла сёстра
Эй, вязуць мяне проста-крыва,
Прашчай, прашчай, мая міла.
Эй, пасадзілі мяне на койку,
Стрыгуць, брыюць мне галоўку,
Эй, як астрыглі мне лабочак,
Стаў я слаўны галубочак.
Эй, астрыглі мне валоскі,
Пасыпаліся дробны сьлёзкі.
Эй, паставілі мяне пад меру,
Ручкі, ножкі мне памлелі.
Эй, адмерылі тры аршына,
Цешылася ўся старшына,
Эй, што харошь малайчына.

3. IV. 1921.

*Ад рэдакцыі.* Народныя песьні, «апрацаваныя» тым, хто іх запісывае, трацяць сваю запраўдную цану. Дзеля гэтага «Наша Думка» вельмі просіць сваіх паважаных народных супрацоўнікаў запісываць песьні і іншыя віды народнай творчасьці без усякіх, самых невялічкіх «паправак», запісываць якраз так, як чуеце з вуснаў самаго народа.

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 13 *траўня* 1921 *г.*

— Пасьля перагавораў між паўстанцамі і коаліцыйнай уладай у В. Сілезіі, абвешчана часовае замірэньне. Дэмаркацыйная лінія праходзіць праз лінію Карфантага. Баі сьціхлі.

— Прадстаўнікі Англіі, Францыі і Італіі перадалі Домбскаму ноту, у якой гаворыцца, што Польшча ня можа складаць з сябе адпаведнасьці за сілезскія здарэньні, дзеля таго, што яна мала энэргічна ім перашкаджала. В. Сілезскае пытаньне яшчэ ня вырашана, і саюзнікі не дапусьцяць на яго рашэньне ніякіх уплываў.

*Субота*, 14 *траўня* 1921 *г.*

— В. Сілезскае пытаньне вырашыцца нібытта што аканьчальна ў Радзе Паслоў 22 ці 25 траўня.

— Ангельская газэта „Times" піша, што праведыр паўстанцаў Доліва-Навіна ёсьць граф Мельжынскі, б. прускі афіцэр.

— У Лёндане забаставалі работнікі докаў (дзе будуюць караблі) і работнікі электрычных прамысловасьцяў.

— У Швэцыі хочуць павялічыць працоўны дзень з 8 да 9 гадзін.

— Абвешчан тэкст нямецка-бальшавіцкай згоды, падпісанай 6 траўня у Бэрліне, у якой 17 параграфаў. Прадстаўнік Р. С. Ф. С. Р. у Нямеччыне будзе лічыцца адзіным прадстаўнікам Расеі. Абодва ўрады абавязуюцца сьцерагчыся прапаганды і агітацыі праз сваіх прадстаўнікоў проці парадкаў дзяржаў, дзе яны будуць прадстаўнікамі. Савецкая прэса надта здаволена гэтай умовай.

*Нядзеля*, 15 *траўня* 1921 *г.*

— „Rzeczp." паведамляе, што міжсаюзная камісія нібытта ўжо падзяліла В. Сілезію так, што граніца блізка падходзіць да лініі Карфантага.

— Забастоўка горных работнікаў у Англіі ўсё яшчэ цягнецца. Палажэньне пагоршала. Магчыма агульная забастоўка. Пакуль што бастуець 5 мільёнаў работнікаў, заліта вадой 46 капальняў, горная прамысловасьць паралізавана.

— Баі ў Сілезіі, ня гледзячы на загад Камітэта паўстанцаў, не спыніліся.

— Немцы паведамляюць, што за час паўстаньня у В. Сілезіі забіта з саюзніцкіх войскаў 298 чалав., у іх ліку 68 афіцэраў — найбольш гэта італьянцы і французы.

*Панядзелак*, 16 *траўня* 1921 *г.*

— Лёйд-Джордж сказаў у Ангельскім парлямэнце так: да Польшчы можна прылучыць толькі тыя паветы В. Сілезіі, якія запраўды польскія. Палякі самі выклікалі паўстаньне і парушылі Вэрсальскую умову. Калі ўсю Сілезію аддаць палякам—гэта так сама будзе неспаўненьнем Вэрсальскае згоды з боку Коаліцыі. Цяпер астаецца толькі навесьці там парадак ці войскамі Антанты, ці нямецкімі.

— Згоды паміж паўстанцамі і войскамі коаліцыі яшчэ няма.

— У Варшаву дайшлі весткі, што беларускія паўстанцы у Меншчыне занялі Любань, Ігумен і Асіповічы. У Асіповічах растраляна 18 камуністаў-камісараў чразвычайкі. Пад Ігуменам бальшавікі страцілі 27 забітымі 32 раннымі.

— У Рыгу прывязьлі некалькі вагонаў архіўных матар'ялаў, вывезеных адтуль у часе вайны у Расею.

*Аўторак*, 17 *траўня* 1921 *г.*

— У Польшчы магчым міністэрскі крызіс, дзеля таго што некаторыя партыі выказалі сваю няверу міністру Сапезе.

— Жыдоўскія дэпутаты польскага Сойму абвесьцілі, што яны спыняюць перагаворы з польскім урадам.

— III Інтэрнацыянал з 15 траўня будзе выдаваць сваю газэту „Москва" на трох мовах: ангельскай, нямецкой і францускай.

— Баі у В. Сілезіі прадаўжаюцца. Дэлегацыя ад паўстанцаў прыехала у Варшаву.

*Серада*, 18 *траўня* 1921 *г.*

— Пакінутыя паўстанцамі мясцовасьці занімаюцца францускімі войскамі.

— У Ключборку немцы зьбіраюць войскі і гатуюцца да націску на паўстанцаў.

— У Сьлезіі чакаюць прыезду новых кааліцыйных войскаў.

— Лёйд-Джордж у сваёй прамаве у парлямэнце выказаў думкі, яўна скірованыя проці палякоў. Між іншым ён сказаў, што правы Польшчы на В. Сьлезію занадта раздуты. У Сьлезіі ёсьць польская работніцкая маса, але яна пасялілася там нядаўна дзеля працы ў капальнях. Большасьць насяленьня выказалася за немцаў. Польшча, спачуваючы паўстаньню, кінула вызаў („пяр-

шчатку") Вэрсальскаму трактату, які заваявала ня яна, але Францыя, Англія, Італія. У гэты час ёсьць толькі дзьве дарогі для вырашэньня пытаньня аб В. Сьлезіі: 1) зрабіць парадак войскамі коаліцыі; 2) дапусьціць нямецкія войскі ў В. Сьлезію—гэта былоб справядліва, бо няможна адкінуць немцаў ад магчымасьці бараніць тэрыторыю, якая папраўдзе ім належыць.

— Францускі міністар Брыян у сваей парлямэнцкой прамове сказаў, што ўваход немцаў у В. Сьлезію прымусіць Францыю выступіць актыўна і што заява Лёйд-Джорджа аб прыналежнасьці Сьлезіі немцам не справядліва.

— Карфанты паслаў тэлеграму Лёйд-Джорджу, у якой пярэчыць проці яго слоў.

— Ходзяць чуткі аб японска-амэрыканскай вайне. Амэрыка павялічывае флёт у Ціхім акіяне. Аб гэтым пішуць маскоўскія газэты.

— Брыян у парлямэнце прапануе акупацыю Бавары, калі немцы адмовяцца разаружыцца.

— У Баварыі адбудзецца зьезд расейскіх манархістаў. У Прусіі ім зьбірацца забаранілі.

— Аскеназі зьвярнуўся да Гюманса з нотай, у якой пытаецца, ці праўда, што Антанта ўжо вырашыла пытаньне аб Вільні, каб аддаць яе Ліцьве.

— Французская газэта „Temps" стаіць за вырашэньне Віленскага пытаньня дарогай Фэдэрацыі.

— Бэльгійская прэса крытыкуе прамову Лёйд-Джорджа.

*Чацьвер*, 19 *траўня* 1921 *г.*

— Габінэт міністраў у Польшчы, пасьля прамовы Лёйд-Джорджа, пастанавіў зрабіць крокі каб сьцішыць паўстаньне у В. Сьлезіі.

— Справа В. Сьлезіі будзе разглядацца у Французкім парлямэнце.

— Магчыма адстаўка Сапегі.

## Провінцыяльны аддзел.

### Як зачынена 17 каапэратываў Горадзеншчыны.

(*Копія з дакумэнта*).

Каапэратывы павету Горадзенскага і Саюз каапэратываў Спажывецкіх Горадзеншчыны, дзякуючы энэргічнай працы з боку Улад, скірованай да ліквідацыі іх, сталі месцам частых адведзін паліцыі.

Некаторыя каапэратывы атрымалі ад Горадзенскай паліцыі паперу ніжэй пададзеннага зьместу: „Стасоўна да распараджэньня п. Старосты павету Горадзенскага з дня 19 кветня б. г. № 182 т. і п. Камэнданта П. П. у Горадні з дня 20. VI. б. г. № 171 коопэратыва N N у дзень 25 кветня б. г. застаецца зачыненнай. Да дня 25|IV на падставе права каапэратыву патрэбна зьліквідаваць аканчацельна, г. з. зьвярнуць сяброўскія паі, і распрадаць тавар".

Гэтак робіцца ў Горадні, на правінцыі-жа яшчэ гарэй—там проста паліцыя прыходзе і накладае пячаткі на памешканьня каапэратываў і гэта лічыцца за закончаньне развязаньня коопэратываў.

Каапэратывы у цэлях атрыманьня інфармацый а прычынах зачыненьня каапэратываў, выслалі сваіх дэлегатаў да п. Старосты, але дарэмна дэлегацыя некалькі дзён хадзіла—Староста аўдэнцыі не ўдзяліў, кажучы, што няма аб чым гаварыць.

Бачучы, што аўдэнцыі не дачакаецца, дэлегацыя злажыла паданьне з просьбаю выясьніць прычыны, выклікаўшыя рэпрэсіі, але п. Староста і да гэтага часу ня даў адказу, у тых-жа каапэратывах, дзе да сказанага тэрміну ня былі распрададзены тавары, паліцыя апячатала памяшканьня.

Калі некаторыя каапэратывы зьвярнуліся з просьбаю а выданьні дазваленьня на скліканьне агульнага сходу для выбараў ліквідатараў, згодна з вымаганьнем статуту і арт. 78 і 79 уставы а каапэратывах, з дня 29|X—20 г., то ім у гэтым было адказана, што зьяўляецца няслыханным у дзеяльнасьці каапэратываў—ліквідаваць якую-небудзь гаспадарку бяз удзелу гаспадара і атрыманныя ад ліквідацыі капіталы дзяліць паміж тых жа гаспадароў па сваяму жаданьню.

Гэтакія рэпрэсіі можа правадзіць хіба тая адміністрацыя, якая уважае, што права абавязуе толькі тых асоб, якія яго ухваляюць.

У тых каапэратывах, дзе віднеюцца на дьзверах памешканьня чырвоныя пячаткі паліцыі, прыхадзячыя адведаць каапэратыў людзі кажуць з жалем, што як самі сяляне пачалі арганізоўваць свае каапэратывы, то на іх знашлось і паліцыя на чале з павятовым Старастай, тады калі істнуючыя на бок прыватные гандляры — могуць вольна вясьці гандаль—рух жа каапэратыўны у самом сваём зародку праве што саўсім задушаны.

Даводзячы а павысшым факце да ведама сфэр каапэратыўных, просіма такіх прысьці нам магчымаю дапамогаю, бо распараджэньне п. Старасты ёсьць бязпраўнае.

Каапэратывы нашыя злажылі болей як 5—4 мес. таму свае статуты для легалізацыі, а арт. 5 уставы з дня 29|X—20 г. вымагае даньня адказу ў працягу двух месяцаў; па уплыве жа гэтага тэрміну, калі ніякога адказу недадзена, каапэратывы лічацца істнуючымі праўна і на падставе гэтага да нашых каапэратываў, як арганізацый істнуючых праўна, належала прымяніць арт. 65 т. уставы.

Каліж пан Староста кіраваўся распараджэньнем былога Генаральнага Камісара Усходніх Зямель, то там вымагаецца тэрмін ня 2 месячны, а толькі 3 тыдняў.

Мы, ніжэйпадпісаныя, пратэстуема проці такому паступаваньню ўлады з каапэратыўнымі арганізацыямі.

Сьпіс зачыненных каапэратываў дадаем.

1. Беларусь у Горадні.
2. Бацькаўшчына ў Горадні.
3. Добрабыт у Скідле.
4. Карысьць у Луне.
5. Каллегіум у Цыдзіках.
6. Лучнасьць у Жыдомлі і у другіх пунктах; агулам 17 каапэратываў.

У імя Саюза каапэратываў Горадзеншчыны (подпісы).

Прадстаўнікі каапэратываў (подпісы).

7|V—21 г.

З арыгіналам згодна

Старшыня Саюзу (подпіс).

---

ГАДАВЫ АГУЛЬНЫ СХОД ПАЎНАМОЦНІКАЎ

**Віленскага саюзу каапэратываў.**

Адбудзецца паміж днямі 26—30 траўня 1921 г. ў Вільні ў залі польскага работнічага дому (вул. Акадэміцкая № 4).

Паседжаньне пачнецца 26 траўня а гадзіне 11 раніцаю.

У разе адсутнасьці кворуму чарговы сход адбудзецца 27 траўня (мая) г. г. 11 гадз. раніцаю пры усякім ліку прысутных паўнамоцнікаў (§ 37 статуту саюза).

Саюзныя таварыства, якія не атрымалі па якіх кольвек прычынах спецыяльных запросін гэтым запрашываюцца аб дэлегаваньні сваіх паўнамоцнікаў з належнымі даручэньнямі, якія патрэбна прадставіць у бюро саюзу (вул. Мал.-Пагулянка 12).

**Урад Саюзу.**

---

## БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Зборка студэнтаў-беларусаў.**

12-го траўня у Віленскім Унівэрсытэці адбыўся сход студэнтаў-беларусаў. Студэнты разглядалі справу статуту „Студэнцкага Кружка". Статут сабраньне прыняло. Усіх студэнтаў-беларусаў ёсьць нешта чалавек 30. Бяда ўся ў тым, што на сходы ня ўсе прыходзяць. 12 траўня было 15 асоб.

**Арышты.**

Як паведамляе „Ґолас люду", у Вільні арыштаваны беларускія працаўнікі Пракулевіч і Пігулеўскі. Прычына арышту—невядомая.

**Экскурсія.**

Вучні і вучаніцы беларускай вучыцельскай сэмінарыі ў Барунах 18-га траўня прыехалі з сваім дырэктарам гр. Ракам-Міхайлоўскім і вучыцелямі ў Вільню аглядаць тутэйшыя старадаўныя памяткі і знаёміцца з працай на заводах, майстэрнях і інш.

**Безграшоўе.**

Дзеяльнасьць Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Вільні у гэты час моцна цярпіць ад безграшоўя. Служачыя ужо колькі месяцаў не дастаюць платы за службу. Работа не разьвіваецца.

**Заняткі ў Гімназіі.**

Заняткі ў 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі канчаюцца, дзеля рэмонту памяшчэньня, у першых днях чэрвеня.

**М. Гарэцкі хварэе.**

Супрацоўнік «Нашае Думкі» і б. яе выдавец-рэдактар, моцна запрацаваўшыся, чуе сябе хворым і па загаду дактароў выяжджае з Вільні на вёску. Літэратурныя фэльетоны для газэты М. Гарэцкі дэкляраваў даваць і далей.

**Пан Клецкін і беларускія кнігі.**

Вядомаму ў Вільні гаспадару друкарні і выдаўцу Клецкіну, дастаўляўшаму з дазволу ўлады беларускія кнігі з Вільні ў Менск, цяпер забаронены выезд з Вільні, што вельмі шкодна адбілася на справах беларускага выдавецтва і снабжэньня беларускіх школ падручнікамі.

Зварочуем увагу рэферэнта беларускае асьветы п. Тарашкевіча і старшыні Бел. Школьнае Рады п. Кахановіча, што трэба шукаць з утворанага становішча нейкі выхад. Няўжо-ж гэта справа павінна стаяць?

## Пісьмы у Рэдакцыю.

I.

Паважаны пан Рэдактар! Просім Вась замесьціць гэты ліст.

Да нас дайшлі чуткі, што некатарыя асобы атрымлівалі і атрымліваюць грошы на Раду Случчыны. Грошы гэтыя да Рады *недаходзілі*.

Паведамляем, што Рада Случчыны ў сучасны мамэнт ня істнуе, усе раней выданыя ёю паўнамоцтвы цяпер не запраўдны і што па гэтым паўнамоцтвам ніхто грошай на Раду ня мае права атрымліваць.

Б. Намесьнік Старшыні Рады
**І. Біруковіч.**
Сэкретар **Ю. Сасноўскі:**

14. V. 1921.

II.

Высокапаважаны Грамадзянін Рэдактар.

Не адмоўце падаць да агульнага ведама ніжэйпісанае.

У № 65 (86) газэта «Американские Известия» зьмесьціла стацьцю „Белорусская Миссия", ў якой,—шукаюцы крыніцы паявіўшагася ў амэрыканскай расейскай прэсе ліста Грамадзяніна Мікалая Махорава, які прызывае Грамадзян Беларусі пачакаць з рээміграцыяй з Амэрыкі ў Савецкую Расею, дзе іх чакае голад і холад,—аўтар кідае думку, што ліст гэты ні быта падроблен кімсь і сфабрыкованы ў Нью-Іорку мясцовымі чарнасоценнымі коламі, а мо' і Беларускай Місыяй, якая «як паведамлялі газэты — даўно ўжо зьбіралася і можа ўжо прыехала ў Амэрыку».

Думкі і развагі гэты не адпаведаюць праўдзе.

1) Ліст гэты не сфабрыкаваны ў Нью-Іорку, а напісаны ў Рызе ў Лацьвіі жывым чалавекам Мікалаем Махоравым, які адным з першых эшалонаў прыехаў з Амэрыкі на Бацькаўшчыну, пазнаеміўся тамака са становішчам жыцьця і, явіўшыся ў Рыгу, захацеў голасна папярэдзіць ўсіх сваіх братоў аб чакаючай іх долі.

2) З лісту былі зьняты, па жаданьню М. Махорава, копіі, згоднасьць якіх з арыгіналам, які і да гэтага часу заховываецца ў Архівах Вайскова— Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Лацьвіі і Эстоніі, была спраўджана, таксама па просьбе Н. Махоравам і яго прыяцелямі ў амэрыканскую прэсу.

3) Усе, вылажанае ў гэтым лісьце. аб цяжкім жыцьцю ў Савецкай Расеі падцьвярджаецца і з іншых крыніц і даўно ўжо папала ува ўсю Еўрапэйскую расейскую прэсу.

4) Што касаецца Беларускай Місыі, дык, як мы бачым, роль яе тутака была чыста службовая: пасьведчыць згоднасьць копіі з арыгіналам. Місыі прыходзіцца штодня рабіць падобную работу з рознымі дакумэнтамі, бо гэта яе просты абавязак. А таму абвінавачаньне яе ў жаданьні дыскрадытаваць Вялікарассею і велікароссаў ў вачох эмігрантоў — не вытрымлівае крытыкі. Роўна-ж не вытрымлівае крытыкі падазрэньне ў тым, што Беларуская Місыя зносіцца з чарнасоценцамі і манархістамі. Беларускія Місыі стаяць на варце інтарэсаў беларускага селянска-працоўнага народу і ўсе сілы і ўвесь час іх аддадзены зносінам з гэтым пакрыўджанным народам.

Прыміце, Паважаны Грамадзянін Рэдактар, шчырую да Вас пашану.

**Валадзімір Грунтоў.**

б. кіраўнік Беларусскага Прэс-Бюро пры Вайскова Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р. ў Лацьвіі і Эстоніі.

III.

### Адкрыты ліст у Беларускую Школьную Раду.

Калі ў лістападзе 1920 г. ў Забрэскую воласьць Ашмянскага павету прыбыў сябра Беларускае Школьнае Рады грам. Станкевіч і апавесьціў аб адчыненьні пачатковых школ у роднай нашай мове, усе вучыцялі і сьвядомыя грамадзяне вельмі ўсьцешыліся з гэтага і шчыра прыхінуліся да школьнае працы. Школьным інструктарам на нашую воласьць быў назначаны грам. Азерскі, сьвядомы беларус.

Вельмі цяжка было спачатку наладзіць школьную справу ў нашай воласьці грам. Азерскаму. Ледзь ня ў кожнай вёсцы трэба было яму знайсьці хату пад школу, даставіць кніжкі ў школы і інш. І праўду сказаць, дзякуючы яго шчырай працы, ў скорым часе пачаліся ўсюды заняткі ў школах, і ўсё йшло ў працягу школьнага

